прадстаўнікам ад Беларускае меншасьці ў Польшчы быў пасол Ф. Ярэміч. Пасьля заканчэньня кангрэсу ў пачатку г. м. пас. Ярэміч вярнуўся ў Вільню.

Справаздачу аб кангресе пас. Ярэміч дасьць на чарговым паседжаньні Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

— **Паседжаньне Цэнтральнага Ураду Беларускага Інстыту Гаспадаркі і Культуры.** У панядзелак 10-га верасьня адбылося паседжаньне Цэнтральнага Ураду Бел. Інст. Гас. і Культуры. Разгледжаны былі: справа адказу Куратарыі на заяву аб канцэсіі на Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю, справа выкананьня бюджэту і справа гімну Інстытуту.

— **Дэлегацыя да Віленскае Куратарыі.** У сувязі з адказам Віленскае Куратарыі на заяву Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры ў справе канцэсіі на вучыцельскую сэмінарыю, дня 13-га верасьня ўдалася да п. Куратара дэлегацыя ад Інстытуту ў асобах старшыні гр. Більдзюкевіча і паслоў Ф. Ярэміча і П. Карузы. Пан Куратар запэўніў што, калі ўсе фармальнасьці будуць задавольваючымі, дык канцэсію на Беларускую Вучыцельскую Сэмінарыю выдасьць яшчэ ў сёлетнім годзе.

— **Гімн Інстытуту.** 10 верасьня, на паседжаньні Цэнтральны Урад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры прызнаў музыкальны твор пасла А. Сгэповіча: „Дзе чутны мовы нашай гукі...“ гімнам Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Гэты гімн будзе выконвацца хорам на ўсіх урачыстых абходах, ладжаных Інстытутам. Гурткі і Аддзелы Інстытуту павінны будуць на кожным гадовым агульным сходзе сяброў адсьпяваць гімн, з належнаю павагаю і ўрачыста.

— **Судовы працэс у Вялейцы.** Віленскі Акружны Суд на выезднай сэсіі ў Вялейцы разглядаў справу жыхараў м. Маладэчына: П. Данкевіча, М. Ганіча, Яз. Мароза, Ів. Ганіча, К. Пальчэўскага, Ул. Ганіча, Яз. Цыбульскага і Фл. Юрэвіча, вінавачаных ў перавозе камуністычнае літэратуры з Менску ў Вільню. Пасьля разгляду справы Суд засудзіў: П. Данкевіча на 6 гадоў М. Ганіча на 5 гадоў, Я. Мароза на 4 гады, Ів. Ганіча і К. Пальчэўскага на 2 гады вастрогу, а Ул. Ганіча, Яз. Цыбульскага і Фл. Юрэвіча — прызнаў нявіннымі.

— **Крывавы выпадак у Лідзкім вастрозе.** Польскія газэты падаюць, што надовячы ў вайсковым вастрозе ў Лідзе два вязьні Шышлоў і Казяркевіч кінуліся на ключніка капраля Замойду, хочачы адабраць ад яго аружжа. Замойда вырваўся з рук вязьняў і стрэліў з рэвальвэра і раніў у бок вязьня Шышлова.

— **„Беларуская Зарніца.“** Апраўданы ў працэсе грамады сьвецкі сьвяшчэньнік Коўш (сьвецкім называем яго затым, што ён ходзе ня ў расе, а адзеты пасьвецку—з манішкай і гальштуком, праўда, як быў пад судом, тады надзяваў расу) на прошлым тыдні выдаў часопісь на беларускае мове пад назовам „Беларуская Зарніца.“ Часопісь мае на мэце прышчапляць праваслаўнаму люду і духавенству любоў да істнуючага парадку і палажэньня праваслаўнае царквы ў Польшчы, а таксама весьці барацьбу з незалежным праваслаўным кірункам сэн. В. Багдановіча. Як гэта скора людзі могуць мяняць скуру?!

— **Матывы прысуду Грамады.** Гэтымі днямі ўсім засуджаным б. грамадзістым меліся быць даручаны матываваныя прысуды, якія займаюць 40 старонак друку. У працягу 2-х тыдняў засуджаныя будуць мець права падаць апэляцыю. Апэляцыйны суд можа разгледзіць справу не раней як вясной 1929г

— **Новая сэнсацыя.** Праваслаўны сынод пастанавіў расшырыць мэтрапалітальную раду і з гэтай мэтай запрасіў ад Беларусаў гр. Астроўскага, Чатырку і сьвецкага сьвяшч. Каўша. Вельмі даіўным зьяўляецца гэты факт, бо гэтыя асобы ня маюць ніякага маральнага права рэпрэзэнтаваць праваслаўнае беларускае насяленьне. У раду могуць уваходзіць толькі асобы выбраныя праваслаўным грамадзянствам.

— **Пасольскі мітынг у Браслаўі.** Восьмага дня гэтага месяца у м. Браслаўі адбыўся справаздаўчы пасольскі мітынг, арганізаваны паслом К. Юхневічам. З прычыны фэсту Н. М. Б. на мітынгу было надта многа народу. Паміма справаздачы аб працы сойму пасол абрысаваў агульнае палажэньне Беларусаў пад Польшчай з боку палітычнага і гаспадарчага. Адначасна высьніў шкоднасьць працы для селяніна— Беларуса польскіх партыяў, асабліва П. П. С. і Вызваленьня. Характэрна, што прадстаўнік Браслаўскага Староства колькі разоў перарываў мову, забараняючы гаварыць аб выбарных надужыцьцях і аб ніскім роўні навукі ў пачатковых польскіх школах. Канфідэнты са свайго боку перарывалі мову і хацелі зрабіць „бурду“, аднак-жа гэта ім не ўдалося. Прадстаўнік Староства перарываў мову па загаду павятовага каманданта.

— **Праца Тэатральнае групы Гуртка Бел. Інст. Гасп. і Культуры ў Шутавічах.** Тэатральная група Гуртка Бел. Інст. Гасп. і Культ. у в. Шутавічах, Ашмянскага пав., дня 19 VIII с. г. ладзіла спэктакль-вечарыну ў в. Суцькаве, гм. Смаргонскай. Ігралі „Птушку шчасьця“ і „Зьбянтэжаны Саўка“.

Гэная-ж Тэатральная група дня 26 жніўня с. г. ладзіла ў в. Шутавічах спэктакль-вечарыну. Была пастаўлена драма „Дзядзька Якуб“ і былі прадэклямаваны вершы нашых паэтаў. Урэшце Тэатральная група Шутаўскага Гуртка Інстытуту 2 верасьня ладзіла беларускі спэктакль-вечарыну ў м. Смаргонях. Ігралі „Паўлінку“ і „Заручыны Паўлінкі“. Публікі, як заўсёды і ўсюды, было вельмі многа. На ўвагу заслугоўвае прысутнасьць на апошнім прадстаўленьні ў вялікім ліку польскага афіцэрства.

З усіх вечарынаў чысты даход пайшоў на мэты Інстытуту — на будову Народнага Дому ў в. Шутавічах.

— **Культурна-прасьветная праца ў Гуртках Інстытуту.** Сябра Інстытуту гр. Я. Шутовіч, карыстючыся летнім перарывам заняткаў на Унівэрсытэце наведаў гурткі Бел. Інст. Гасп і Культ. у Баранавіцкім павеце.

Пры гэтай нагодзе 26-VIII с. г. будучы ў м. Мядзьведзічах меў лекцыю на тэму: „Беларуская культурна-асьветная праца на вёсцы і яе мэтоды“. Гэтую самую лекцыю меў грам. Я. Шутовіч 28-VIII с. г. у в Падбарочча, 7-8 клм. ад Мядзьведзіч, і 31-VIII у в. Гайніне, Мядзьведзіцкай гміны.

Усе одчыты адбыліся з вялікай удачай. Шмат было на кожным прысутных. Заўважваецца вялікае зацікаўленьне роднай справай на беларускай вёсцы.

28-VIII. — пасьля одчыту ў в. Падбарочча адбылося аматорскае прадстаўленьне. Арганізавалі прадстаўленьне і гралі на сцэне аматары-артысты — сябры і сябрынькі Мядзьведзіцкага Гуртка Інстытуту. З вялікай удачай прашла камэдыя „Лэкары і лекі“. Пасьля прадстаўленьня адбыліся беларускія дэклямацыі вершаў і песьні.

— **Спэктакль у Будславе.** 12 жніўня с. г. адбылася тут пад кіраўніцтвам беларускай матурысткі — Ірэны Будзько — беларуская спэктакль-вечарына. Ставілі на сцэне: „Чорт і Баба“ і „Мікітаў лапаць“. Абедзьве штукі ўдалося адыйграць сусім добра. На вечарыне было каля 400 асоб. З прыездных быў пасол Каруза. Каса выручыла за білеты 188 злотых, якія пашлі на патрэбы мясцовых установ. На вечарыне іграла трубная музыка пажарнай дружыны.

Пасьля гэтай удачнай вечарыны заахвоціліся аматары-артысты зрабіць другую вечарыну.

Пажадана, каб Будслаўская моладзь зарганізавала Гурток Бел. Інст. Гасп. і Культуры.

**Беларускае студэнства (АБСА) на міжнародных зьездах.** На адбыўшымся Х-ці гадовым Кангрэсе Міжнароднай Студэнскай Канфэдэрацыі (ЦІЕ) ў Парыжы ад 11 да 24 жніўня г. г. Аб'яднаньне Беларускіх Студэнскіх Арганізацый (АБСА) мела свайго надзвычайнага дэлегата інжынера Кажэўнікава.

На гадавы Кангрэс Пацыфістычнай моладзі ў Эерде (Голяндыя, 17—26.8) АБСА, будучы таксама запрошаным, з-за недахопу сродкаў, дэлегата пасладь не змагло. Паслала затое прывет з мэмарыялам, у якім выказала сваё становішча да пытаньня аб пацыфікацыі сьвету.

## НАШАЯ ПОШТА.

**Да ведама падпішчыкаў.** „Сялянская Ніва“ ня выходзіла ў працягу апошняга месяца з прычыны зьмены адказнага рэдактара. Прысланыя грошы на падпіску будуць залічаны на наступны месяц.

**Глыбоцкай Акр. Управе Т.Б.Ш.** — Газэту вышлем па атрыманьні падпіскі.

**Сербаку.** У вашай карэспандэнцыі не пададзен ніводзен факт аб немаральных паступках асаднікаў, затым яе не зьмяшчаем.

## Пісьмы ў Рэдакцыю.

*Паважаны гр. Рэдактар!*

Не адмоўцеся калі ласка зьмясьціць у Вашай газэце наступнае:

З прычыны звальненьня з вастрогу кс. В. Гадлеўскага гэтым перасылаю сардэчнае павіншаваньне і прывітаньне заслужанаму барацьбіту за беларускую справу. Ул. Гмыр.

Палесьсе.

*Паважаны гр. Рэдактар!*

Прашу не адмовіць надрукаваць у Вашай газэце наступнае:

З № 2 „Долі Працы“ даведалася я што нехта „Свой“ захацеў мяне скампрамітаваць, падаючы, быццам я адгаварывала сялян ня браць удзелу ў вечарыне, якая была наладжана ў вёсцы Сычавічах вучнямі Радашкаўскай гімназіі і вясковай моладзяй. Гэтым заяўляю, што я іду так, як і мае дзядыпрадзеды ішлі—простым шляхам, не заблуджваю нікуды, а яшчэ як магу стараюся працаваць на ніве роднае асьветы, ня гледзячы на тое, ці гэта праца вядзецца пад сьцягам Т-ва Бел. Школы, ці Бел. Інстытуту Гаспад. і Культуры.

Усе закіды „Свайго“ зусім безпадстаўныя і не адказваюць праўдзе. Калі-б гэтыя закіды былі хоць трохі блізкія праўдзе, дык дасужы карэспандэнт павінен быў мець грамадзкую адвагу і падаць хоць адно прозьвішча селяніна, якога я адгаварвала ня браць удзелу ў вечарыне.

Дзіўна толькі, што газэта „Доля Працы“ зьмяшчае карэспандэнцыі нясумленных аўтараў, якія кіруючыся асабістымі незадаваленьнямі падаюць у прэсу нязгодныя з праўдай закіды.

З пашанай М. Смалонская.
Сычавічы, 15. VIII. 28 г.

## Падзяка.

Аб'ездная Тэатральная група Шутаўскага Гуртка Бел. Інст. Гасп. і Культ. складае шчырую падзяку Грыгору і Стэфану Балышу з вёскі Суцькава, за іхнюю шчырую працу, якую яны палажылі пры арганізаваньні спэктакля-вечарыны.

**Дырэкцыя Аб'езцнай Тэатральнай групы.**

*Сяляне, спаўняйце свой грамадзкі абавязак — падавайце дэклярацыі на беларускую школу.*

## Жалаба расейца Сярэбранікава.

На кангрэс нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве зьявіўся і б. пасол Сярэбранікаў, як прадстаўнік ад расейскае нацыянальнасьці. Вельмі незавідную роль адыгрывала гэтая асоба на кангрэсе, бо ішла якраз з тымі, што ўціскаюць меншасьці. Найбольш сьмешным было выступленьне гэтага пана з жальбаю на Беларусоў і Украінцаў, за тое, што яны не прызнаюць на сваіх землях істнаваньне расейскае меншасьці і затое што не прынялі расейцаў да блёку нацыянальных меншасьцяў падчас апошніх выбараў. Ад былога чарнасоценца нічога лепшага і ня можна было спадзявацца.

**Сяляне! Чытайце і пашырайце „Сялянскую Ніву“.**



## Да нашых падпішчыкаў.

Шмат хто з нашых падпішчыкаў вельмі часта зварачваецца з паведамленьнем аб не атрымліваньні газэты. Кожны раз у гэтакіх выпадках мы падавалі рэклямацыі да Дырэкцыі пошты ў Вільні. Пасьля нейкага часу Дырэкцыя давала нам адказ, дзе тлумачыць, што пошта адсылае карэспандэнцыю або ў гміну або аддае солтысу, згодна істнуючых на гэта правілаў. Калі так, дык можна прыпушчаць, што газэты гінуць, або ў гміне, або солтыс атрымаўшы газэту не аддае яе адрэсату, а забірае сабе. З гэтакімі штукамі Рэдакцыя змагацца ніяк ня можа. Тут ужо залежыць больш ад самога падпішчыка.

Наша газэта выходзіць цяпер два разы ў месяц, а дзеля гэтага той падпішчык, які не атрымае дзьве газэты, павінен, перадусім, паньсьці на сваю пошту і запытаці: ці ён ёсьць у карце прэнумэраты. Калі ёсьць, дык павінен шукаць свае газэты ў гміне, у солтыса. А калі няма яго ў карце прэнумэраты, тагды зьвярнуцца да Рэдакцыі.

Іншага способу няма ніякага. Толькі гэтакім способам можна направіць справу. Знача, падпішчык сам павінен шукаць газэту ў бліжэйшых установах, якія маюць сутычнасьць з карэспандэнцыяй.



## Паведамленьне.

Урад Беларускага Студэнскага Саюзу гэтым падае да ведама зацікаўленых, што з дня 22-га верасьня г. г. Сэкрэтар'ят Беларускага Студэнскага Саюзу (вул. Сьв. Ганны 2) будзе адчынены што аўторкі і суботы ад 6—да 7 вечара, куды і просім зьвяртацца за ўсялякімі інформацыямі.

За Старшыню (-) *Я. Ермаковіч* Сэкрэтар (-) *Ст. Станкевіч.*

**Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні**

у суботу, дня 22 верасьня с. г.—у салі Белар. Гімназіі (Вострабрамская № 9).

**ЛАДЗІЦЬ ВЕЧАРЫНУ.**

У праграму вечарыны ўходзяць:

а) Тэатральнае прадстаўленьне — **СУРДУТ і СЯРМЯГА**, драмат. абраз з песьнямі і танцамі ў 3-х актах,

б) дэклямацыі, в) хор і г) скокі да раніцы.

**Пачатак а гадз. 8-ай вечарам.**

Даход пойдзе на мэты Студ. Саюзу.

Адк. Рэдактар: Ал. Каптур. Выдавец: пас. Ф. Ярэміч. Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.